# АБРАЗЫ З ТЫДНЯ



**Сяброўства японскіх і нямецкіх матросаў.**
Японскія і нямецкія матросы спаткаліся ў Атлянтыцкім акіяне.



Нямецкія танкісты ў горах Каўказу ў наступе на савецкія пазыцыі.



Мора пяску й пылу ў стэпах паміж Донам і Волгай.

Капітан Граф здабыў 202 паветраную перамогу.

**У СТАЛІНГРАДЗЕ**



Пасьля артылерыйскай падрыхтоўкі пяхота ідзе ў наступ.



Шмат тыдняў бальшавікі вялі заўзятыя атакі на Ржэв. Але нічога ім зрабіць не ўдалося. Як раней, так і цяпер стаіць у Ржэве нямецкі жаўнер — На вярхоўях Волгі жаўнеры павесілі вымытую бялізну.



На здымку капітан Граф пры пасадцы ў самалёт.



У паўдзённай частцы СТАЛІНГРАДУ цэлыя кварталы цалкам зьнішчаны ў часе жорсткіх баёў.



Ад дажджоў каля Сталінграду размоклі дарогі. Перамагаючы цяжкія труднасьці, прасоўваюцца наперад новыя артылерыйскія часьці.